


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (61) ЛЮТЫ 2008 г.


**У нумары:**





# Таямніца Друйскага пісаніка

## *На шляху да разгадкі*

Пісанікамі часам называюць Барысавы камяні, на паверхні якіх высечаны вялізныя крыжы і надпісы, зробленыя ў XII ст. пры полацкім уладары Барысе. Друйскі Барысаў камень быў адкрыты апошнім - у канцы XIX ст., і не прыцягнуў асаблівай увагі даследчыкаў. У 30-х гадах XX ст. валун апынуўся на рачным дне і доўгі час лічыўся страчаным. У 2002 годзе ўдалося лакалізаваць, а потым і перасунуць валун на высокі бераг. Вяртанне з нябыту каштоўнага помніка шырока асвятлялася ў СМІ. Быў падрыхтаваны спецыяльны нумар "Павета" (кастрычнік - лістапад 2002 г.), у якім змешчаны грунтоўныя матэрыялы пра гісторыю каменя, хроніка прац па перамяшчэнню. Цяпер пісанік можа ўбачыць кожны ахвочы. Трэба, праўда, улічваць, што ён знаходзіцца на памежнай паласе, побач з Заходняй Дзвіной, якая падзяляе Беларусь і Латвію. Цікавасць да валуна з надпісам сярод турыстаў узрастае. Здзіўляе, што ніякай зацікаўленасці не выказалі даследчыкі. Між тым, асноўная таямніца Друйскага пісаніка не разгадана.

Яшчэ адкрывальнік помніка Аляксей Сапуноў адзначаў, што па правы бок ад крыжа знаходзіцца тэкст, які яму не ўдалося прачытаць. На сваёй замалёўцы даследчык пазначыў тут толькі 4 літары. Замалёўка А.Сапунова ўказвала на тое, што Друйскі камень вылучаецца сярод падобных. Асноўная частка надпісу "*Господи помози рабу своему Борису*" размешчана не сіметрычна адносна крыжа, а толькі злева. Значыць, справа павінен быў знаходзіцца аналагічны па колькасці слоў надпіс. Толькі - які?

Такое пытанне паставіла перад сабой група школьнікаў мясцовай школы пад кіраўніцтвам Міхаіла Ставіцкага. Дзесяткі разоў прыходзілі яны да Барысавага каменя і спрабавалі прачытаць літары правай часткі. Той, хто бачыў Друйскі пісанік, добра ведае, як дрэнна чытаецца на яго шурпатай паверхні надпіс, нават крыж не адразу выяўляецца. Каб зрабіць рукатворныя знакі больш выразнымі, школьнікі ўжылі некалькі спосабаў. Напрыклад, камень абліваўся вадой. Хутчэй высыхалі пукатыя паверхні, а паглыбленні з вадой яшчэ заставаліся цямнейшымі. Толькі часу для працы над літарамі заставалася няшмат. Выкарыстоўвалі пясок. Калі светлы рачны пясок раўнамерна расцягнуць па паверхні, а потым вельмі акуратна пачынаць прыбіраць, то паглыбленні будуць вылучацца даволі выразна. Яшчэ лепшы вынік дало выкарыстанне снегу. Як толькі з дапамогай аднаго са спосабаў літары бачыліся больш выразна, рабілася фотафіксацыя лічбавай камерай. Пазней атрыманыя здымкі апрацоўваліся камп'ютарнымі спосабамі. І праца каля каменя, і праца за камп'ютэрам былі звязаны з пэўнымі абмежаваннямі. Таму даследчыкі

ўжылі яшчэ адзін спосаб, які аказаўся надзвычай эфектыўным. Да каменя ў межах надпісу прыклалі ліст тэхнічнай фольгі і з дапамогай кавалка гумы малатком абстуквалі паверхню. На фольгэ адбіваліся ўсе падрабязнасці рэльефу паверхні. Ліст замацавалі на драўляным падрамніку. Адпала неабходнасць за кожным разам бегаць да валуна. Можна было выбіраць крыніцы асвятлення, ужываць фарбавальнікі. Такім чынам чыталіся літара за літарай. Школьнікі налічылі іх 51. Былі ўнесены ўдакладненні да надпісу ў левай частцы. Юныя даследчыкі звярнулі ўвагу на тое, што А.Сапуноў у слове "рабу" прапусціў літару "О", трэба было чытаць "рабоу". Ад імя "Борисоу" першы даследчык убачыў толькі "О". Школьнікі лакалізавалі рэшткі літар "С" і "У". Але найбольш каштоўнымі аказаліся вынікі прачытання літар у правай частцы. Тут у дадатак да двух радкоў з надпісамі $\overline{\text{ХС}}$ і $\overline{\text{КА}}$ школьнікі вызначылі яшчэ сем радкоў, у кожным з якіх высечана па 2 - 3 літары. Друйскія краязнаўцы прачыталі іх наступным чынам:






На жаль, гэтыя літары не складваюцца ў тэкст. Чаму так сталася? На валуне можна разгледзець глыбокі скол, які не быў пазначаны на малюнку А.Сапунова, на фотаздымку Я.Булгака канца 20-х гг. XX ст. Верагодней за ўсё, частка каменя з літарамі была знішчана лёдам, які ў 30-я гг. XX ст. сцягнуў валун у рачныя глыбіні. Можна меркаваць, што знішчэнне закранула каля 30 % надпісу ў левай частцы. Друйскія краязнаўцы мяркуюць, што "АМН" - гэта слова "АМІНЬ", "ГОС" - "ГОСПАДЗІ". Але сцвярджаць гэта дакладна пакуль немагчыма. У працэсе працы высветлілася, што асобныя літары выклікаюць спрэчнае прачытанне. Да працы падключыліся супрацоўнікі Браслаўскага музея. Іх расшыфроўка трохі адрозніваецца:




Але і гэты варыянт не дае магчымасці прачытаць тэкст. Тым не менш, друйскія школьнікі зрабілі вялікай каштоўнасці працу: яны звярнулі ўвагу на таямніцу Друйскага каменя. Магчыма, спецыялісты высокай кваліфікацыі змогуць прачытаць тэкст цалкам. Гэта будзе мець вялікае значэнне для гістарычнай навукі. Словы ўдзячнасці пры гэтым павінны быць скіраваны ў бок друйскіх энтузіястаў пад кіраўніцтвам М.Ставіцкага. Друйскія краязнаўцы прадставілі матэрыялы сваіх пошукаў на сайце http://www.drujatut.narod.ru. У 2007 г. доследная праца па Друйскаму пісаніку была прадстаўлена М.Ставіцкім на навукова-археалагічнай канферэнцыі, якую праводзіла Браслаўскае музейнае аб'яднанне. Першым месцам было адзначана гэта даследаванне на раённай канферэнцыі навуковых прац школьнікаў (працу прадстаўляў вучань 11 класа Аляксандр Спургяш). Матэрыялы, звязаныя з даследаваннем школьнікаў каштоўнага помніка, можна ўбачыць на новай выставе "Камяні і жыццё", якая адкрылася ў памяшканні Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея ў лютым 2008 г.

К.Шыдлоўскі

# Друя ў 1843 годзе

## Некаторыя падрабязнасці пра горад

Можна без канца паўтараць, што сярод усіх паселішчаў Браслаўшчыны Друя мае самую багатую гісторыю. У розных архівах Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, іншых краін зберагаюцца тысячы дакументаў, якія тычацца Друі. На іх падставе калісьці будзе напісана шмат артыкулаў і асобных манаграфій, якія ўзбагацяць нашы ўяўленні аб матэрыяльнай і духоўнай спадчыне Друі. Што да самога паселішча, то лёс яго выглядае досыць сумна. Колішні горад, у савецкія гады гарадскі пасёлак, цяпер пазбаўлены гарадскога статусу. Сучасная Друя - вясковае паселішча, у бліжэйшым будучым - аграгарадок. Усё менш тут жыхароў, усё болей закінутых, занядбаных сяліб. У руінах значная частка гістарычных помнікаў.

А якой была Друя ў 1843 годзе? Паспрабуем уявіць сабе гэта дзякуючы аднаму толькі дакументу. У Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы зберагаецца "***Список всем вообще обывателям заштатного города Друи с показанием выделенного им числа покоев, оценки дома***..." (F 378, 1843, спр.1913). Дакумент складзены 20 жніўня 1843 г. і ўтрымлівае пералік усіх уладальнікаў дамоў горада па вуліцах. У загалоўку спіса адзначана, што Друя належыць да памешчыкаў Мілашаў. Нагадаем, што ў 1824 г. паселішча ад Сапегаў набылі Мілашы (цікава адзначыць, што сваяцкія сувязі з друйскімі Мілашамі меў славуты польскі паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш).

Спіс 1843 года ўключае 372 домаўладанні. Паводле звестак 1841 г. насельніцтва Друі складала каля 3, 6 тысяч чалавек. Значыць, у сярэднім у адным доме жыло каля 10 чалавек. У тагачаснай Друі вылучалася 18 вуліц разам з Рынкам. Вуліцы падзяляліся на тры разрады. Да першага адносіліся 4 вуліцы (98 двароў), да другога - 7 вуліц (107 двароў), да трэцяга - 7 вуліц (167 дамоў). Чым адрозніваліся вуліцы розных разрадаў? Хутка гэта стане ясным. Пройдземся па ўсіх вулачках у такой паслядоўнасці, як яны змешчаны ў дакуменце.




**План горада з манаграфіі О.Гедэмана "Дзісна і Друя магдэбургскія гарады" (1934). На гэтым плане можна адзначыць вуліцы Друі, згаданыя ў спісе 1843 г.**

Першым сярод вуліц вышэйшага разраду стаіць Рынак *"Базар"*. Чатырохвугольная рынчачная плошча і цяпер вылучаецца ў Друі, тут заўсёды канцэнтраваўся гандаль, тут знаходзілася ратуша. Калі быў арганізаваны Рынак, згаданы ў дакуменце 1843 г., невядома. Ёсць звесткі, што ў іншай частцы Друі, усходняй, існаваў стары Рынак. У 1843 г. Рынак налічваў 22 дамы, 8 з іх былі мураванымі. Гаспадарамі рыначных дамоў былі ў асноўным яўрэі (Барэц, Шмушковіч, Борхаў, Зэйдлін, Зільберг). Спіс змяшчае імя і прозвішча гаспадара, але часам утрымлівае дадатковыя звесткі. Так, на Рынку жылі: купчыха 3-й гільдыі Дар'я Дабрыннікава і лепельская мяшчанка Лур'ева. 6 дамоў мелі салідную ацэнку: 300 - 450 рублёў, у 13 ацэнка вагалася ад

20 да 150 рублёў.

Вуліца Сапежынская *"Сапежинская"*. Адна з цэнтральных і ажыўленых вуліц Друі (іншая назва - Вялікая). Яна пачыналася ад пагорка, дзе канцэнтраваліся пабудовы дамініканскага кляштара, царква Пятра і Паўла (раён сучаснай школы) і ішла ў бок кляштара бернардзінцаў. Налічвала 27 дамоў, большасць з якіх належала хрысціянам (Савіцкі, Букевіч, Капуста, Самовіч). Гаспадарамі 10-ці хат былі яўрэі (Лейба, Зэйдлін, Блехман, Шэрман). Вылучаны лявонпальскі мешчанін Кастрэль Сафа, бурмістр Стэфан Канашэвіч, памешчык Фама Мірскі, аптэкар Рыгор Норберг. Адзначаны дваране: Фердынанд Ляснеўскі, удава святара Мураўская, Антанэлла Смагаржэўская. Ф.Мірскі валодаў 2-павярховым домам (1-шы паверх мураваны) з 7-мю пакоямі. Адзначым, што падаўляючая большасць дамоў у Друі мела 1 - 2 пакоі. Дом Ф.Мірскага ацэнены ў 450 рулёў. Кошт дома аптэкара - 300 рублёў, бурмістра - 200 рублёў. Ацэнка 18 сяліб вагалася ў межах 50 - 120 рублёў, яшчэ 2 - 10 - 15 рублёў. Дом Ёселя Генкіна адзначаны словамі *"ветхий совершенно"*. Заўважым, што дваране Смагаржэўская і Ляснеўскі валодалі даволі сціплымі дамамі коштам 50 - 70 рублёў.

Рынак і Сапежынская вуліца злучаліся Даміні-канскай. Тут налічвалася 34 сялібы, 31 з якіх належала яўрэям (Зэйдлін, Эйгін, Блехман, Кораб, Модлін, Авербах, Школьнік, Гольберг). Названы дваранін лекар Іосіф Зайкоўскі (яго мураваны дом каштаваў 450 руб.), мяшчане: лужкоўскі Іцак Свердлін, дрысенскі Юдка Левітанаў, мінскі Гірша Гольберг, купец 3-й гільдыі Ізразль (неразборліва). На Дамініканскай знаходзілася 4 мураваныя дамы (адзін часткова). Вылучаўся двухпавярховы (радкі тып дамоў для тагачаснай Друі) мураваны дом Цярэнція і Дзмітрыя Дабрыніных, ацэнены ў 200 руб., 23 дамы вуліцы, ці пераважная большасць, каштавалі да 100 руб. Зусім бедных, коштам 30 рублёў і меней было няшмат: 7 дамоў.

Да 1-га разраду была аднесена невялікая вуліца Наддзвінская з 15-цю дамамі. Іх гаспадарамі былі ў асноўным хрысціяне ( Гілашэвіч, Марэцкі, Канашэвіч, Антановіч, Баброўскі). Купцу 3-й гільдыі Данату Самовічу належала два дамы. Адзін з іх меў ацэнку ў 600 рублёў і быў самым дарагім у Друі, другі каштаваў 450 руб. Відавочна, што Д.Самовіч быў адным з самых багатых у горадзе. На вул. Наддзвінскай жыў яшчэ адзін купец 3-й гільдыі - Стэфан Марэцкі ( дом коштам 460 руб., 4 пакоі). 6 дамоў, ці каля паловы, можна аднесці да катэгорыі бедных (меней 30 рублёў), у тым ліку адзін *"ветхий совершенно"*.

Спіс вуліц 2-га разраду адкрывае Замкавая вуліца. Вуліца з такой назвай магла размяшчацца ці на ўсходзе горада, у наваколлі былога замка Сапегаў, ці ў раёне вусця Друйкі, дзе знаходзіліся даўнія ўмацаванні горада. Налічвалася 27 сяліб, прыблізна палова - яўрэйскія (Баран, Гарэлы, Дворкін, Генкін, Зэйдлін, Нахімчык), напалову - хрысціянскія (Катовіч, Рашковіч, Сівоха, Мацкевіч, Карзнік). 7 дамоў належалі дваранам. Сярод іх: Дамінік Сырэвіч (2 дамы), Ігнат Катовіч, Гаўрыла Стацэвіч. Вылучаны дамы мяшчан: з Люцына Лейзера Бейнэля, Якабштадта Людвіка Польхіна, Шаркаўшчыны Нохіна Цыліна. Звяртае ўвагу, што кошт дамоў значна больш сціплыя - у трох ацэнка вагаецца ў межах 200 - 260 рублёў, менш 50-ці рублёў каштавалі 14 дамоў. Цікава, які выгляд мелі дамы аднадворца Антона Сівохі і Адама Грэцыка, кошт якіх складаў 4 і 8 рублёў адпаведна?

На вуліцы Чапіеўскай першым домаўладальнікам запісаны нейкі Вікенцій Чапія - адсюль і гэта дзіўнаватая назва. Чым вылучаўся Чапія, што стала прычынай такой назвы вуліцы - невядома, як невядома і яе размяшчэнне. Налічвалася тут 13 выключна хрысціянскіх сяліб (Баярынавіч, Бланкевіч, Зяновіч, Навіцкі, Сіповіч). 8 дамоў, ці больш за палову, каштавала 10 - 15 рублёў.

Вуліца Духаўская знаходзілася ва ўсходняй частцы горада пры ўніяцкай царкве Св.Духа, праходзіла яна ўпоперак Сапежынскай вуліцы. Пералічаны 8 домаўладальнікаў хрысціян (Жаўняровіч, Капуста, Савіцкі, Крашчэвіч, Каравай). Вылучаўся дом капітана Навіцкага (250 рублёў, 6 пакояў), кошт астатніх - ад 8-мі да 50-ці рублёў. Непадалёку знаходзілася вуліца Галубіная *"Галубова"* з 12-цю дамамі. Жылі тут як яўрэі (Маркава, Рыпендайн, Зэльдзін), так і хрысціяне (Запольскі, Ляўданскі, Канашэвіч). Тры домаўладальнікі адносіліся да дваранскага саслоўя -



**Царква Св.Духа па замалёўцы Дз.Струкава 1864 г. Бачна, што храм стаяў асобна ад забудовы Духаўскай вуліцы.**

Каржанеўская, Антон Мурашка, удава Матусевіч. У Міхала Зэльдзіна ўказана прафесія - шавец. Самы лепшы дом быў у А.Мурашкі - 130 руб. Асноўная маса каштавала 10 - 30 руб., у тым ліку і дваранскія.

Вуліца Дабравешчанская *"Благовещенская"* размяшчалася пры праваслаўным храме і мела 8 дамоў з гаспадарамі-хрысціянамі (Наўмовіч, Канашэвіч, Валошын, Біруковіч). Спіс вылучае калежскую асэсарку Ганну Лапіцкую (калежскі асэсар - 8-ы клас чыноўніка ў 14-ці класах Табелі аб рангах Расійскай імперыі), яе дом каштаваў 200 руб., меў 3 пакоі. Астатнія дамы мелі наступную ацэнку: 6, 10, 20, 25 (2), 40, 50 рублёў.

Таксама каля праваслаўнай царквы знаходзілася вуліца Новая (сучасная Альтэра Друянава). У 1843 г. складалася з 18 сяліб, гаспадарамі якіх былі ў асноўным яўрэі (Лурый, Гелькін, Басін, Мунін, Добкін). Адзначаны мяшчане: з Люцына Давід Дубкоў, са Шклова Зульман (мураваны дом, 150 руб.), купец 3-й гільдыі Данат Самовіч. Згадаем, што гэты купец на вуліцы Наддзвінскай меў два дамы агульным коштам 1050 руб. Дом па вул.Новай каштаваў усяго 10 руб. На гэтай вуліцы 8 сяліб, ці каля паловы, каштавалі 10 руб. і меней.

Адмысловай працы па лакалізацыі патрабуе вуліца Загарадская "*Загородская*". У 1843 г. яна была не маленькай - 23 дамы. Толькі ў двух гаспадары былі хрысціянамі (Дабрынінава, Зяновіч), астатнія належалі яўрэям (Муляр, Тэйч, Хейтава, Крывец, Левін, Фішэр, Гурвіч, Дрысенскі). У трох дамах жыло па дзве сям'і. Толькі дом Арона Бініна быў ацэнены ў значную суму - 250 руб., пераважалі ацэнкі 10, 25, 40 рублёў.

Яшчэ больш сціплы жыллёвы фонд меўся на вуліцах 3-й катэгорыі, агульная колькасць дамоў якіх складала 165.

Назва вуліцы ці забудовы Слабада пад Бернардзінамі "*Слобода под Бернардинами*" падказвае, што знаходзілася яна побач з сучасным касцёлам Св.Троіцы былога бернардзінскага кляштара. Налічвалася 21 сяліба.



**Царква Добравешчання на замалёўцы Дз.Струкава 1864 г. Бачна сціплая местачковая забудова, апісаная ў 1843 г.**

Гаспадарамі 2-х дамоў былі яўрэі (Дзерыён і Гершаў), астатніх - хрысціяне (Семановіч, Пятроўскі, Міцкевіч, Альхімовіч, Прошка, Арлоўскі). Адзначаны 5 дваран: Агаф'я Пушкава, Іван Радзевіч, Іван Станкевіч, Якаў Чапкоўскі, Іаанна Вараноўская. У І.Вараноўскай дом каштаваў 200 руб., меў 5 пакояў. Астатнія дваране былі значна бяднейшымі, а Станкевіч і Чапкоўскі валодалі хібарамі, ацэненымі ў 10 і 20 рублёў.

Самай маленькай вуліцай тагачаснай Друі была Школьная - усяго 5 дамоў. Тут суседнічалі яўрэі Бінін Хайтава, Белякоў, Сандлер і хрысціянін Васілеўскі. Кошт дамоў вагаўся ў межах 10 - 50 рублёў.

Вуліца Вусце размяшчалася ў раёне трохвугольніка, які быў утвораны Друйкай і Заходняй Дзвіной. Адсюль калісьці пачыналася Друя. Побач знаходзілася галоўная сінагога горада - велічны мураваны будынак. У гэтай частцы Друі гітлераўцы стварылі гета, тут знішчылі ўсіх яго жыхароў. У 1843 г. вуліца мела 36 дамоў. Толькі адзін гаспадар - Мікалай Вяржбіцкі - быў хрысціянінам, астатнія - яўрэямі (Энкін, Блехман, Зубач, Шмушковіч, Бляхар, Гінсбург). Вуліца была бедная: 26 дамоў каштавалі да 30-ці рублёў.

Усе апісаныя вышэй вуліцы знаходзіліся ў той частцы Друі, якую ў XVII ст. называлі Сапежынам. Заходней, за Друйкай, знаходзіўся стары горад. Спіс называе гэта месца "*За Друеей*". У 1843 тут меліся 4 вуліцы.

Вуліца Браслаўская захавала сваю гістарычную назву. У 1843 г. - гэта самая вялікая вуліца Друі, яна налічвала 64 сялібы. Насельніцтва было змяшанае. Сярод яўрэяў - Эльперын, Фарбер, Кушняроў, Таўман, Гельфер; сярод хрысціян - Замковіч, Чарняўскі, Чаплінскі, Ляскоўскі, Камар, Нарушэвіч, Храпавіцкі (цікавым здаецца такое прозвішча - "*Иван Безьяй*"). Адзначаны дваране: Ганна Лясneўская, Усцін Капытскі; мяшчане: дзісенскі Стэфан Дамброў, шаркаўшчынскі Трэйтэр, новааляксандраўскі Елі Саполлер, дзісенскі Лаўр Адамовіч. Больш за палову дамоў (35) каштавала да 20 рублёў, падаўляючая колькасць дамоў мела па 1-му пакою.

Ад Браслаўскай на захад адыходзіла Курляндская вуліца. Нагадаем, што да Курляндскай мяжы ад Друі было некалькі кіламетраў. Вуліца налічвала 11 сяліб. Насельніцтва як яўрэйскае (Барбакоў, Энцін), так і хрысціянскае (Клебановіч, Кантаневіч). Адзначаны дваранін Пётр Букоўскі, дрысенскі мешчанін Меер Матусевіч. Адзіны на вуліцы дваранін жыў у хаце "*ветхой совершенно*". Астатнія мелі ацэнку ў асноўным 10 - 20 рублёў.

Вуліца Іказненская з 14-цю хатамі вылучалася тым, што тут было хрысціянскае насельніцтва з прозвішчамі, якія заканчваліся на "-*іч*" (Нарушэвіч, Карцініч, Марцынкевіч, Душынкевіч, Круткевіч). Адзначаны дваранін Адам Станкевіч, дзісенскія мяшчане Сымон і Франц Шаркоўскія. Ацэнка большасці дамоў не перавышала 25 рублёў.

Апошняй у спісе запісана Запрудская вуліца з 14-цю дамамі. Адзін дом яўрэйскі (Рыбін), астатнія - хрысціянскія (Дзятковіч, Старыновіч, Навіцкі, Паўлоўскі). Адзначаны перабродскі мешчанін Міхаіл Зубаў. Асноўны кошт дамоў складаў ад 5-ці да 20-ці рублёў.

Вось так, дзякуючы спісу, мы павандравалі па вулачках Друі 1843 года, горада драўлянага, са сціплымі дамамі. На фоне гэтай сціплай забудовы велічна ўзвышаліся комплексы дамініканскага і бернардзінскага кляштараў, вялікая сінагога ды дзесятак іншых цэркваў. Найбольш прыстойны выгляд меў цэнтр, тут размяшчаліся амаль усе прыватныя камяніцы. Для тагачаснай Друі найбольш заможнымі дамамі былі дамы з ацэнкай звыш 200 рублёў (31 дом на ўсю Друю, 22 з іх прыходзілася на вуліцы 1-га разраду). Бедных дамоў з ацэнкай да 25 руб. было 167 ці каля паловы (107 з іх знаходзілася на вуліцах 3-га разраду).

23 дамы ў горадзе належалі дваранам (19 з іх знаходзіліся на вуліцах 2-га і 3-га разрадаў і мелі невысокую ацэнку). Найбольш багатай групай былі купцы. Іх налічвалася пяцёра, усе купецкія дамы знаходзіліся на вуліцах 1-га разраду і лічыліся багатымі.

Адносна 18-ці гаспадароў складальнікі спісаў палічылі патрэбным адзначыць іх ранейшае пражыванне. Мяшчанамі іншых гарадоў, мястэчак лічыліся 4 гаспадары з Дзісны, 2 - з Дрысы (сучасны Верхнядзвінск), 2 - з Шаркаўшчыны, а таксама па аднаму з Пераброддзя, Лявонпаля, Лужкоў, Лепеля, Мінска, Шклова, Новааляксандраўска (сучасны г.Зарасай, Літва), Люцына (сучасны г.Рэзэкнэ, Латвія), Якабштадта (сучасны г.Круспілс, Латвія). Большая частка іншагародніх мяшчан - яўрэі.

Спіс дае некаторае ўяўленне аб нацыянальным рэлігійным складзе насельніцтва Друі. Даволі проста вызначыць месцы пражывання яўрэяў. Сярод хрысціянскага насельніцтва можна казаць аб прысутнасці тут каталікоў, праваслаўных. Для этнічнага аналізу звестак бракуе.

Безумоўна, каштоўнасць дакумента палягае і на тым, што імёны і прозвішчы даюць магчымасць праводзіць генеалагічныя пошукі, цікавасць да якіх узрастае.

Міхаіл Ставіцкі

# МЕСЦА БОЮ 1812 ГОДА КАЛЯ ДРУІ І ПАХАВАННІ



Падзеі вайны 1812 г. пакінулі даволі значны след у народнай памяці. Некаторыя мясціны, гарадзішчы, курганы звязваюць з французамі, са скарбамі, нібыта схаванымі французскімі войскамі. Вядомы многія аповяды мясцовых жыхароў пра французскія могілкі.

Такімі легендамі багаты і мясціны ў наваколлі Друі. Гэтыя звесткі вырашылі праверыць навучэнцы музейнага гуртка пры Друйскай СШ. Асноўнай крыніцай інфармацыі аб невядомых могілках быў расказ В. Вароньki, які пражываў непадалёку. Яму, у сваю чаргу, аб гэтым расказваў бацька. Вацлаў Антонавіч паведаміў, што побач з каталіцкімі могілакамі, праз дарогу насупраць, знаходзіцца вялікае пахаванне французаў. Але калі яно зроблена, чаму на мясцовасці няма ніякіх слядоў яму невядома. Гуртоўцы пачалі аналізаваць і супастаўляць розную інфармацыю.

З гісторыі вядома, што 14 - 15 ліпеня 1812 года каля Друі адбыўся бой паміж рускімі і французамі, у якім апошнія страцілі два палкі. Вялікая колькасць забітых павінна была дзесьці пахавана. На карысць версіі В. Вароньki было і тое, што супадала месца бою - на гары, на вялікім полі, ля дарогі на Браслаў і ўказанае ім месца пахаваня.



З надзеяй знайсці хоць нейкія сведчанні юныя даследчыкі адправіліся на росшукі. Агледзеўшы пустэчу устанавілі, што маркуемая пляцоўка мае памеры прыкладна 50 х 100 метраў. У савецкі час пэўная яе частка выкарыстоўвалася пад цялятнік, скотны двор і прылягаючыя гаспадарчыя пабудовы (цяпер не існуюць). Але частка плошчы засталася некранутай. Яна ўяўляе сабой парослы травой пляц з вельмі пяроўнай паверхняй. Ва ўсе часы мясцовыя жыхары тут не ладзілі ніякіх збудаванняў, выкарыстоўваючы яго толькі для выпасу жывёлы. Вакол гэтага месца ў 1998-2005 гг. вырас паселак новых жылых дамоў. Падышоўшы да нас пражываючы там Эдуард Жаўняровіч расказаў, што падчас будаўніцтва вадаправоду экскаватар некалькі разоў выкопваў спарахнелыя групы з чалавечымі астанкамі. Сумненняў не засталося - гэта месца пахаванняў. Але якіх? І тут наш гуртковец Саша Булах убачыў ускраек каменю, які узвышаўся над паверхняй зямлі. Было бачна, што камень мае плоскую, штучна апрацаваную паверхню. Крыху адсунуўшы зямлю ўсе убачылі крыж. Мы вырашылі адкапаць гэту знаходку. З дапамогай рыдлёвак на свет хутка паказаўся ўвесь камень. На ім аказаўся васьміканцовы крыж і надпіс, які сведчыў, што тут пахаваны "Григорий Васильевич Бирюкович". Саша Спургяш, Саша Булах, Лейціс Яўген і Шаляпёнак Коля устанавілі гэты надмагільны помнік у вертыкальнае становішча, як адзінае сведчанне таму, што некалі на гэтым месцы сапраўды былі могілкі.

(***Ад рэдакцыі** - у спісе землеўладальнікаў Друі 1843 г. прозвішча Біруковіч згадана толькі адзін раз. На вуліцы Дабравешчання, каля праваслаўнай царквы, уладальніцай дома пазначана "вдова Бирюковичова". Таксама, некаторыя дакументы фіксуюць святароў: у 1863-64 гадах Паўла Біруковіча, друйскага благачыннага і Міхаіла Біруковіча, які служыў у Друі з 1879-га па 1898 год, а пасля быў пераведзены ў в.Мыта Лідскага павета, дзе і памёр 11 ліпеня 1902 года*). Але ці былі тут пахаваны французы па-ранейшаму загадка, якую павінны даследваць прафесійныя навукоўцы.

# Першы французскі генерал, які трапіў у палон у 1812 годзе

*Матэрыял, які друкуецца ніжэй, быў дасланы Уладзімірам Лякіным, навуковым супрацоўнікам Калінкавіцкага краязнаўчага музея, які сярод іншага займаецца гісторыяй вайны 1812 года. У.Лякін - аўтар кнігі "Мозырь в 1812 г. Историческая хроника". (Мінск, 2005 г.), якую яшчэ раней даслаў у Браслаўскі музей. Матэрыял прысвечаны бою расіян з французамі, у выніку якога ў палон трапіў французскі генерал Сэн Жэні (Сэн Жэнье). Падрабязнасці гэтага здарэння апісвае А.Паноў, аўтар артыкула ў расійскім выданні "Воин-дайжест". Прапануем пераклад артыкула з неістотнымі скарачэннямі.*

1(13) ліпеня Напалеон накіраваў армію ў напрамку на Глыбокае, пакідаючы ўбаку Дрысенскі лагер. У гэты самы дзень ар'ергард корпуса П.Х.Вітгенштэйна пад камандаваннем генерала Я.П.Кульнева, маючы прадпісанне "*не входить в серьёзное дело на левом берегу Двины*", "*при приближении неприятеля, после небольшой перестройки с весьма малою потерею*" перайшоў на правы бераг Дзвіны і знішчыў за сабой мост. Непрыяцель заняў супрацьлеглы бераг. Капітан Ю.Залускі ўспамінаў, што каля Друі "*генерал Себасцьяні з запалам, які ўласцівы французскім генералам, асабіста змагаўся сярод гусар Умінскага, у прыватнасці, у ротах капітанаў Букоўскага і Кушаля супраць казакоў. Ён не мог надзівіцца мужнасці гэтых двух афіцэраў*". Пасля адступлення казакоў за раку Себасцьяні разам з Залускім выправіўся ў Друю. Тут, у дамініканскім кляштары "*Себасцьяні атрымаў усе магчымыя навіны аб рускіх, асабліва аб генерале Вітгенштэйне, загадаў інжынерным афіцэрам*

*зняць план Друі і наваколля*", а потым вярнуўся ў свой лагер. Залускі застаўся ў лагеры польскіх гусараў і агледзеў мясцовасць. "*За кляштарам дамініканаў у Друі, - успамінаў ён, - знаходзіўся востраў на Дзвіне, які быў заняты лесам. Лес займаў тут і правы бераг ракі, што аблягчала атаку з гэтага боку. Гэта месца патрабавала ўвагі і пільнасці. Я падумаў, што авангард французскай кавалерыі, у складзе двух палкоў егераў пад камандаваннем генерала Сен Жэні, да якога належаў і полк Умінскага, можа быць атакаваны з гэтага боку*".



**Дывізіённы генерал Себасцьяні (1772-1851)**

На наступны дзень Залускі вярнуўся ў лагер Себасцьяні. Капітан піша: "*Я знайшоў генерала распранутым да кашулі. Ён адпачываў на паходным ложку ў адным з пакояў заезнага двара, задрапіраваным зялёнай тканінай, і націраў бярцовыя косці! Я да глыбіні душы быў уражаны гэтым відовішчам і зразумеў, у якой небяспецы яго авангард і ён асабіста*". Капітан зрабіў даклад аб тым, што ён убачыў і пра што даведаўся, у прыватнасці, пра 40-тысячны корпус Вітгенштэйна. Пачуўшы імя апошняга, Себасцьяні выкрыкнуў: "*Гэта невук!*" Залускі быў уражаны такой пагардай да непрыяцеля і ўсё болей пераконваўся, "*што такая фанабэрыстая самаўпэўненасць будзе пакарана*". Сапраўды, рускія ўважліва назіралі за бесклапотным непрыяцелем. "*Усмотря, - піша Кульнеў, - что неприятель отступлением моим возмечтался своею победою, разъезжая ночью на ту сторону, принял я намерение, коего он никак себе не чаял*". Аб сваіх намерах Кульнеў паведаміў Вітгенштэйну, які пісаў: "*Видя, что неприятель после того ничего не предпринимает и имел одни только конные посты и разъезды на берегу и отступлением моего авангарда возмечтал своею победою, приказал я генерал-майору Кульневу 2-го числа в ночь навести мост, переправиться на ту сторону и атаковать неприятеля*".

Выконваючы загад, Кульнеў у ноч з 2 (14) на 3 (15) ліпеня "*за милю по Чернавской дороге*" навёў "*паспешно мост*" ля м.Прыдруйск. "*Со светом, переправя кавалерию*" (казачы Платава 4-ы і Гродзенскі гусарскі палкі), на левы бераг Дзвіны, Кульнеў паслаў наперад частку казакоў. Яны збілі французскія масты ля Друі і гналі іх да Анікшты (назва дадзена памылкова - Рэд.), ля якога знаходзіліся 11-ы конна-егерскі і 10-ы польскі гусарскія палкі. Казакі завязалі з імі бой, а пазней да іх далучыліся гусары. Кульнеў загадаў падпалкоўніку Ф.В.Рэдзігеру разгарнуць Гродзенскі гусарскі полк пабатальённа ў дзве лініі, а казакам прыкрываць флангі. "*В таком боевом порядке, где неприятель менее всего ожидал на себя нападения, был атакован сначала при высотах Двины...*" Калі непрыяцель "*был опрокинут, то откомандированный ротмистр Гротгус ударил стремительно в преследование за оным, отрезал левый фланг неприятельского авангарда, взял эскадроном в плен бригадного генерала де Сен-Жениес, до 50 человек нижних чинов*". Упасна кажучы, гэта была заслуга афіцэра Глебава, які "*при атаке эскадрона ротмистра Гротгуса с отменною храбростью бросился с несколькими человеками вперёд и сшиб с лошади бригадного генерала де-Сен-Жениеси тотчас, не взирая на окружённого неприятеля,выведя его за фронт, дал ему свою лошадь*" і даставіў яго да Кульнева. Пры гэтым юнкер Каверын "*способствовал взятии бригадного генерала выручением со взводом корнета Глебова, который был окружён неприятелем*". Па словах Залускага Кульнеў спачатку напаў на авангард Умінскага, разграміў гэтыя часці і ўзяў палонных, у тым ліку аднаго афіцэра, якога звалі Лос, потым скіраваўся супраць брыгады генерала Сэн-Жэні. Лейтэнант 12-га конна-егерскага палка гэтай брыгады М.дэТашэр падсумоўваў у сваім дзённіку за 15 ліпеня: "*У пачатку дня непрыяцель трыма шарэнгамі атакаваў брыгаду ля лесу. Адсутнасць генерала, недахоп парадку, замяшанне. Брыгада апракінута. Генерал прыбыў і быў узяты ў палон. Палякі і 11-ы страцілі 200 чалавек. Палкі, якія ўцягнуліся ў лес, былі вымушаны адступіць. Адыходзілі эшалонамі, перайшлі раку, скіравалі ўправа, зрабілі 6 лье* (лье сухапутны адпавядаў 4, 444 км - Рэд.). *Бівакавалі ля Сутарошнічы* (верагодна, Сутараўшчына - Рэд.). *Рускія гналі непрыяцеля амаль да в.Чэрнева ў 15-ці вёрстах ад г.Друі, прычым "его кавалерия, состоящая из 11-го конно-егерского полка и 10-го польского гусарского, была почти вся истреблена, и вся дорога была покрыта трупами мёртвых тел*".

3 (15) ліпеня Кульнеў сцісла запісаў: "*кавалерия наша одержала славную победу над двумя неприятельскими конными полками, кои почти все истреблены*", "*в плен взято: генерал Де-Сен-Жени, ротмистр - 1 (капитан Матте), поручиков - 2 (подпоручик Толле, 10-го гусарского поручик Лохи), разных низших чинов - 139*"; "*сверх сего, по неимению подвод на месте сражения оставлено более 100 тяжелораненных*". Палонныя былі дастаўлены да Вітгенштэйна.



**Сэн-Жэні трапляе ў палон. Ілюстрацыя А.Яжова з выдання "Воин-дайджест"**

"*Кульнев, получив от своих разведчиков сведения о наступлении сильных французских колонн вниз по правому берегу р.Друйки, и донесение полковника Ридигера о нахождении французской пехоты между гор.Друеюи дер.Чернева, отозвал Гродненский гусарский полк назад и переправился со своим авангардом на правый берег Западной Двины, оставив Донской казачий полк подполковника Платова 4-го на левом берегу этой реки*".

Залускі адзначыў, што "*паражэнне гэта было тым больш цяжкім, што было яно першым і што ў палон трапіў французскі генерал*". А.Калентур у сваю чаргу адзначыў, што Напалеон "*быў вельмі незадаволены сутычкай авангарда неапалітанскага караля з непрыяцельскай кавалерыяй. Генерал дэ Сен-Жэні і даволі шмат жаўнераў трапілі ў палон*". Міхайлоўскі-Данілеўскі пісаў, што "*это кавалерийское дело замечательно тем, что имело влияние на распоряжения*

*Наполеона*". Напалеон атрымаў паведамленне аб разгроме брыгады Сен-Жэні пры выездзе з Вільні да Глыбокага 4 (16) ліпеня.

Мюрат адправіў для Сен-Жэні 200 луідораў са сваім ад'ютантам маёрам М.Ж.Разэцці, акрамя таго ад'ютант "*меў дакладныя інструкцыі разгледзець, колькі непрыяцельскіх сіл замацавалася ў Дрыскім лагеры. Генерал Себасцьяні загадаў даць мне адборны эскорт з 12-ці гусараў і загадаў брату Сен-Жэні, які таксама быў яго ад'ютантам, выправіцца са мной разам з экіпажам генерала і слугамі*". Экіпаж быў перададзены генералу Багавуту і перапраўлены праз раку.

"*Весть об удаче Кульнева*, - пісаў Данілеўскі, - *первом значительном тогда деле русских, и плене первого захваченного русскими французского генерала, передала имя Кульнева всей России. На Сен-Жени, привезённого в Москву, народ сбежался смотреть, как на диво*". 6 (18) жніўня Растапчын пісаў Балашову, што "*St.Geniest просил себе домик нанять на дворе и с садом. Его народ обступил и грозил бить, увидя под окном*". Растапчын згадваў, што "*это был красивый и очень сдержанный человек. Он обедал у меня, а нанимал маленькую квартиру, где и оставался до вступления неприятеля*".

З Масквы Сэн-Жэні быў накіраваны ў Калугу, адтуль - у Разань з прапаршчыкам 4-га егерскага палка Арлоўскім. Верагодна, ён прыбыў туды 11 (23) верасня і пражыў там каля месяца. 10 (22) верасня камендант галоўнай кватэры выслаў у Калугу "*оного генерала... экипаж, состоящий из одной коляски, три лошади и арап Жан Батист Моро*" з прапаршчыкам Калужскага палка Паўлоўскім. Генерала ў Калузе ўжо не было, П.Н.Каверын 20 верасня /2 кастрычніка загадаў адабраць якога жаўнера з Калужскага гарнізоннага батальёна, каб даставіць экіпаж у Разань. Прызначаны радавы К.Фёдараў 7 (19) кастрычніка даставіў экіпаж у Разань, аднак генерала ў горадзе не застаў. Экіпаж пераправілі ў Тамбоў пад наглядам унтэр-афіцэра Дзмітрава. 21 кастрычніка (2 лістапада) разанскі губернатар накіраваў тамбоўскаму "*принадлежащие пленному французскому генералу Сен-Жени две лошади с коляскою*", арапа Жана Батіста Маро, якія былі дасланы яму з Калугі. Пры гэтым знаходзіўся падрабязны вопіс рэчаў, што знаходзіліся ў генеральскіх куфрах (гэты пералік, па-свойму цікавы, з прычыны недахопу месца апускаем - Рэд.). З лістапада тамбоўскі губернатар адправіў гэтыя куфры саратаўскаму губернатару А.Д.Панчулідзеву. Пазней палонны генерал быў накіраваны ў Саратаў, дзе ў спісе палонных значыўся як "Сент-Жени Иван".

# З ФОТААРХІВА НАШАГА ЗЕМЛЯКА

У польскім горадзе Гура (Gora), што непадалёку ад Вроцлава жыве Яцэк Якубчык, карані якога выводзяцца з Друі. Прозвішчы яго продкаў - Сівоха і Калерт - можна сустрэць у гарадскіх дакументах з XIX ст. Напрыклад, у спісе 1843 года згаданы аднадворац Антон Сівоха з вуліцы Замкавай. Аднадворцы - гэта былая дробная шляхта, якая ў царскай Расіі захавала асабістую волю. Паводле слоў Я.Якубчыка Сівохі перабраліся ў Друю з Сівошына, невялікай вёсачкі паміж Полацкам і Расонамі. Цікавае супадзенне: пад Сівошыным загінуў генерал Я.Кульнеў, герой друйскага бою ў ліпені 1812 г. На вуліцы Наддзвінскай мелі свае дамы Ігнат і Іван Калерты. Спіс 1843 г. засведчыў вельмі сціплы маёмасны стан Сівохаў і Калертаў. Але ўжо напрыканцы XIX ст. Сівохі згаданы сярод купцоў, Калертам належаў бровар. Прадстаўнікі гэтых прозвішчаў займалі пэўныя пасады ў гарадскім самакіраванні.

Яцак Якубчык перадаў ў Браслаўскі музей шэраг фотаздымкаў, якія датычацца Браслаўшчыны, у т.л. Друі. Друкуем некаторыя з іх.



**Друя. Пункт пераходу. Польскі і латвійскі памежнікі. 1938 г.**



**Плыты на Заходняй Дзвіне каля Друйскіх берагоў. 1930-я гады**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)